Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# НАША ВОЛЯ

БЕЛАРУСКІ НЕЗАЛЕЖНЫ ДВУТЫДНЁВЫ ЧАСАПІС

Цана 15 гр.

Рэдакцыя і Адміністрацыя:
Вільня, Домінiканская 17-12

Рэдакцыя прыймае:
ад гадзіны 11 — 12
Рэдактар: ад 14—16

Падпісная плата:
у год 3 зл.
за паў году
1,50 злот.
квартальна 1 зл.

№ 10 (11) Вільня, 7 Ліпня 1936 г. Год I

## „Не здадзёмся“.

Два няпоўныя дзесяцілецьці аддзяляюць нас ад упадку старой памешчыцка-капіталістычнай Расеі. Яшчэ жывуць пакаленьні палякоў і беларусаў, цярпеўшых і змагаўшыхся з царызмам, яшчэ жывуць рэвалюцыйныя традыцыі, яшчэ не змоўклі іх песьні барацьбы, як гэройская спадчына для маладога пакаленьня, што змагаецца супроць старога ладу.

Грозная старая „Варшавянка“ ня згубіла сваёй сілы, засталась грознай маладой да сяньняшняга дня. У цудоўнай песьні старых катаржан „Калодніках“ адбіваецца іх цяжкі шлях змаганьня. Нават у людзей, не перажыўшых гэтай праклятай пары, ўстае прад вачыма вялікая Сібірская дарога Старая, як старая Расейская Імпэрыя Раманавых, вялікая як „единая неделимая Матушка-Русь“ сібірская, як жорсткая душа жандарма, увасабляўшага абшарніцка буржуазную Расею.

Па гэтай дарозе ішлі яны з голенымі ілбамі, ідучы цяжка „наперад“ зьвінеў кайданамі лепшы цьвет змагаючагася народу супроць адвечнай сацыяльнай і нацыянальнай турмы царскага самадзяржаўя. Пад звон гэтых кайданоў, што закуты былі „бунтаўшчыкі“, ішлі также лепшыя сыны Польшчы. У жандармскай мове іх называлі „мяцежнікамі“, „палячышкамі“. Іх мілагучная мова ахрышчана была Пурышкевічамі, як мова ўсіх інародцаў — „собачьим наречіемъ“. Іх прыгожая краіна называлась на старонках географіі царскай імпэрыі „Привислинскимъ краемъ“. І побач з ім зьвінеў ланцугамі апяяны Некрасавым „бледны, з запаўшымі грудзьмі беларус, жыхар „Западнаго края“, адчуваўшы таксама, як і палякі ўвесь цяжар царскага прыгнёту. Ішлі яны з такой сьвядомасьцю праўды сваёй справы, з такой пэўнасьцю ў перамогу, што нават на шляху да катаргі „кайданы ігралі ім мазура“. Гісторыя, разьбегшыся з усіх сіл, зрабіла вялізны скок. Зьмянілася ўсё.

На мейсцы старога „Привислинскаго Края“ існуе капіталістычная Польшча, „якая так шмат цярпела, але ня хоча зразумець тых, што церпяць“ (Роллянд). Мацкевічы, увасабленьне старой шляхоцкай польшчызны, выразшаюць наш нацыянальны лёс адным росчыркам пяра — *wobec białorusinów — asymilacja*. Такім росчыркам пяра Мацкевіч у „Слове“ перачырківае нашу нацыянальную душу, лічучы наш народ пакорнымі рабамі. Але наш беларускі народ адкажа Мацкевічам адно: Не здадзёмся. Паны Мацкевічы забываюцца, што мы жывём у 36 г. XX века. Бел. народ не зламіла адвечнае ярмо насільнай русыфікацыі. Можам запэўніць, што не зломіць ніякая насільная асыміляцыя польскіх рэакцыянэраў тыпу Мацкевіча. Не здадзёмся! Мы беларусы будзем беларусамі. Мы ненавідзім сваю нявольніцкую прошласьць і асыміляцыйную сучаснасьць, як і ўсіх чужых Пурышкевічаў — Мацкевічаў, так і нашых беларускіх здраднікаў, якія стараюцца ўвечніць гэтае рабства.

Дзеля гэтага ўсімі сіламі мы змагаліcь і будзем супроць гэтага змагацца. Мы гардзімся тым, што наш народ захаваў і праносіць праз усе нацыянальныя і сацыяльныя турмы свой народны сьцяг, што займае ганаровае мейсца ў перадавых радох змагаючайся людзкасьці за поўнае соц. і нац. вызваленьне. Мы любім сваю мову, сваю песьню, сваю нац. культуру. І няхай не прадстаўляюць нас паны рэакцыянэры „інародцамі“, нацыяй нізшага гатунку. Беларуская мова, гэта мова, якую наш народ пачуў з вуснаў маці. На гэтай мове нашыя дзяды разсказалі нам усю нядолю нашага народу і на гэтай мове адбіта ўся нашая няшчасная мінуўшчына, нашая барацьба і нашае шчасьце. Гэтая мова будзе жыць пакуль жывы наш бел. народ, і ніколі не памрэ паводле жаданьняў паноў Мацкевічаў. Няхай паны рэакцыянэры не прадстаўляюць сябе ў ролі прадстаўнікоў вышэйшай культуры, якія нясуць нам цывілізацыю. Гэты аргумэнт годны рускіх, „цывілізатараў Пурышкевічаў“, якія заганялі ў „рай“ вялікадзяржаўнай культуры дубінкай усіх „інародцаў з сабачым нарэччам“. Мова нашага народу, мова Коласа і Купалы дзеля свайго багацьця, мілагучнасьці, культурнасьці і хараства займае ганаровае мейсца сярод славянскіх неродаў. Культура нашага народу ўжо заняла прыналежнае мейсца паміж перадавых культур і мае ўсе дадзеныя дзеля разьвіцьця побач з культурамі іншых народаў. Наш народ не адгароджваецца кітайскім мурам шавінізму ад польскага народу і яго культуры, як і культур іншых народаў. Мы імкнёмся пазнаць чароўную мову Міцкевіча і Славацкага, усё паступовае, што ёсьць у польскай культуры, як і ў культурах іншых народаў. Але наш народ не дазволіць паном Мацкевічам заганяць сябе ў рай „вялікадзяржаўнай“ культуры батам. Беларускі народ мае сваю гістарычную прошласьць і сваю гістарычную будучыню. Мінуўшчына нашага народу, гэта адвечная сац. і нац. нявоkля, культурная адсталасьць, нэндза і зьдзек. Будучыня нашага народу, гэта — поўнае соц. і нац. вызваленьне, нацыянальны расьцвет, матэрыяльны дабрабыт і пашана, як вольнага народу ў вольнай сям'і з другімі народамі. У гэта мы верым і да гэтага імкнемся.

З моцным пераконаньнем у слушнасьць сваёй справы, з непахіснай пэўнасьцю ў надыходзячую перамогу Бел. народ па прыкладу папярэдніх пакаленьняў, сцэмэнтаванымі, сконсалідаванымі шэрэгамі пойдзе цяжкім шляхом барацьбы, супроць рэакцыі паноў Мацкевічаў і іх пахлебнікаў — беларускага рэакцыйнага фронту. У гэтай справядлівай і сьвятой барацьбе мы верым ў падтрыманьне польскага пралетарыяту, працоўнага польскага народу і чэснай паступовай польскай інтэлігэнцыі. Калі польскі народ сьцякаў крывёй пасьля здушэньня паўстаньня 1863 г. — пратэстуючы ўдар Гэрцэнаўскага „Колаколу“ узварушыў Эўропу. І ня гледзячы на байкот Гэрцэна ўсёй зграяй „образованнаго общества“ і так званых лібэралаў царскай рэакцыі — Гэрцэн не пакідаў бараніць свабоды Польшчы і бічаваць прыгоньнікаў, катаў Мураўёвых, вешацеляў Александра II.

У радох польскага народу беларускі народ знойдзе Гэрцэнаў і гэта будзе аднэй з парукаў нашае перамогі.

Гістарычныя падзеі з нябывалай шпаркасьцю набліжаюцца да рашучага скоку. Наш народ пераржыў Пурышкевічаў і верым — у зацятай барацьбе перажыве і паноў Мацкевічаў — Цатаў. Дзеля гэтага трэба толькі адно: згуртаваць усе здаровыя сілы нашага народу на барацьбу супроць палянізатарскіх рэакцыянэраў паноў Мацкевічаў і іх памочнікаў беларускіх рэакцыянэраў.

## Максім Горкі.

(*Алексей Максімовіч Пешков*)

*радзіўся 16.III 1868 г. — памёр 18.VI 1936 г.*

Памёр Максім Горкі.

Гэта вялікі пісьменьнік, якога дала сьвету работніцкая кляса Расеі.

Ён праз некалькі гадоў пасьля ўваходу ў літэратуру падымаецца, як казачы гэрой на недасяжную вышыню сусьветнай славы. І, узапраўды яго жыцьцё — гэта казка, якая захапляе, хвалюе, вучыць.

Дзевяцігадовым хлапчуком яго, круглага сірату, аддаюць „у людзі“. Ён прайшоў муку мучаніцкую, навучыўся разумець сірацінства чалавека і пароднiўся душою з працоўным народам. У сваіх пазьнейшых апавяданьнях Горкі расказвае нам пра сваё дзяцінства да 10 гадоў, пра тое, як ён хадзіў па мукам, як пытаўся пакончыць самагубствам у 1888 годзе.

Майстар малярскага цэха, як значылася ў пашпарце, Максім Горкі да 1892 году, калі быў надрукаваны яго першы расказ „Макар Чудра“, ужо паслужыў хлапчуком у склепе, кухарам на параходзе, пекарам, пільшчыкам дроў, працаваў грузчыкам, быў харыстым, гандляваў яблыкамі, птухамі, быў пісьмаводам у адваката, быў чугуначным старажам, працаваў у Тыфлісе ў чугуначных майстроўнях. Паміж працаю ён перачытаў масу кніг і за гэты час некалькі раз прайшоў Расею з канца ў канец, ад мора і да мора, бачыў стэпы, горы, мора, Дняпра і Волгу. І з гэтакім вялізарным скарбам сваіх ўражаньняў прыйшоў ён у літэратуру. У яго нязвычайнай памяці зьвінелі любімыя вершы Пушкіна, Лермантава, Гэйнэ і Бэранжэ. У сэрцы жылі песьні ды казкі пра тых пра каго „лишь песьни остались“.

Тады была душная мяшчанская эпоха.

І вось душнаму і бруднаму мяшчанскаму жыцьцю М. Горькі процістаўляе яскравыя вобразы, ён ненавідзіць „мізэрных“ людзей з „мертворождёнными сердцами“, з пагардай глядзіць на паўзучага вужа, які сьмяецца над гордым сокалам, любіць кінуць у твар спакойным і цьвярозым людзям свой абураны і сьмелы пратэст, любіць даць адпор сытасьці і мяшчанскаму дабрабыту. Гэтага сьмелага адпору, гэтых слоў, гэтых песень навучыўся М. Горкі ў барацьбе за жывую душу і за людзкае шчасьлівае і вольнае жыцьцё. Ён умеў любіць брата-чалавека, якога гнэнбіць жорсткае жыцьцё. Ён вырас сярод людзей працы і барацьбы і навучыўся перамагчы тое, на што не хапала часта сілаў многім іншым пісьменьнікам царскай Расеі, якія запівалі горкую чашу (Помялоўскі), або канчалі сваё жыцьцё нэрвова-хворымі (Глеб Успенскі, Гаршын).

Маладое пакаленьне з энтузыязмам прывітала Максіма Горкага ня толькі як уталентаванага мастака, але можа яшчэ балей, як прадстаўніка рэвалюцыйнага пралетарыяту: ён стаў жывым сымбалем эпохі. Яго назвалі *Буравесьнікам*.

Горкі, як мастак-пісьменьнік — вялізарная сіла, тут ён пан свайго слова. На яго мастацкіх палотнах напісана жывая любоў да чалавека, пратэст проці гвалту і пошласьці за радасьць і расцьвет жыцьця. М. Горкі дасканальна панаваў прыгожым рускім языком. Ён сыпе пагаворкамі, як „яблыня кветкамі“. Калі чэхаўская *чайка* стогне. то *буравесьнік* Горкага крычыць. Гэтыя крыклівыя вобразы прыдаюць творам Горкага часам мітынговы характар. Гэта стыль мастака, які кроўна зьвязаны з бурнай эпохай і бунтарнай масай. Але-ж ён умее быць ціхім, мяккім і пяшчотным, калі піша пра дзяцінства, пра ласкі маткі, пра Волгу, лес, прыроду, пра сёлы, што прытаіліся на шырокіх прасторах вялізарнай Расеі.

Пачаўшы ад романтычных вольных цыганоў, басякоў, бунтароў („Макар Чурда“, „Челкаш“) і спазнаўшы іх грамадзкае бязсільле, Горкі зьвяртаецца да інтэлігэнцыі, але і там не знаходзіцца патрэбнай сілы („Варенька Олёсова“, „Дачники“, „Дети солнца“ і др.), хаця схіляецца перад сілай навуковай мысьлі і тэхнікі. Вёска для яго цёмная і дзікая. У сваей творчасьці Горкі затрымліваецца на рабочых. Наборшчык Гвозьдзёў („Озорник“) не філёзафуе над жыцьцём, ён злосна зьдзекуецца над рэдактарам-лібэралам, які можа пісаць перадавіцы ў абарону работніка, але не здольны зрабіць нешта рэальнае. Ніл з драмы „Мещане“ сазнаець сябе тварцом новага жыцьця. У рамане „Мать“ Горкі дае магутны абраз работніка-рэвалюцыянэра, соцыял-дэмакрата. У драме „Врагі“ дае багаты матар'ял для зразуменьня псыхолёгіі работніцкага руху.

Максім Горкі любімы пісьменьнік бунтарных масаў усяго сьвету. Аб гэтым кажуць многія факты: „Мать“ перакладзена на ўсе Эўрапэскія мовы і разыйшлась у Амэрыцы і Гэрманіі мільёнамі экзэмпляраў. Драма „Мещане“ у Расеі за 15 дзён разыйшлась 25.000 экз., томікі яго расказаў расходзіліcь у 100.000 экзэмпляраў. Гзта было до рэвалюцыі. Цяпер тіраж яго твораў трэба лічыць многімі мільёнамі.

Такога волата мастацкаго слова, і вялікага песьняра, падняўшага штандар барацьбы ў абароне чалавека і чалавечнасьці, хараніла 20 чэрвеня Севецкая Расія.

*В. М.*

25-VI-36 г. Вільня.

## Чытайце і пашырайце сваю газэту.

# Фронт супроць фронту.

(Пачатак гл. на ст. 2).

Стары інж. А. Дубейкоўскі быў і застанецца польска-беларускім шляхціцам з Магілеўшчыны.

Кс. В. Гадлеўскі—ідэйны правадыр ў сутане, захварэўшы на манію велічы, выступае ў ролі нятолькі арганізатара усіх рэакцыйных сілаў на беларускім грунце, але, кажучы далікатна, і ў ролі *інфарматара* па начальству на сваіх-жа ўчарайшых сяброў.

Вось прыблізна палітычнае аблічча усей рэакцыйнай чацьвёркі.

Гісторыя і ўсе прычыны, якія змусілі адыйсьці „Б. Ф." ад БНА затушаваны.

Адно ясна: адкуль нарадзіўся ужо даўна. Як відаць не хочучы вынасіць сьмецьця з „сваей хаты", стараючыся канфлікт гэты вырашыць „па сямейнаму" — правадыры з БНА укрывалі ўсе тыя супярэчнасьці перад беларускім грамадзянствам. Будучыня пакажа ясьней.

У гэтым артыкуле будзем карыстацца толькі фактамі „Б. Ф." І так розныя прычыны выклікалі зьяўленьне гэтай групы. Аб усіх прычынах „Бел. Фронт" чамусь маўчыць, паказываючы адно „вялікі зрух" сярод беларускага грамадзянства, „які" прымушае некаторых зрэвідаваць свае пагляды і сваю грамадзка - палітычную ідэалегію; некаторых перамяніць кірунак і палітычную ар'ентацыю, а некаторых пашукаць і іншых дарог дзеля асягненьня сваіх мэтаў". Гэты „зрух" быццам пагражае устабілізованым незалежніцкім ідэям і гэта змусіла іх з кампаньяй парваць сувязь з БНА і зьняць з сябе адказнасьць за палітыку перад Беларускім народам і гісторыяй".

Затрымаемся на апошнім. Калі гаворым аб „вялікім зруху" трэба строга разгранічыць *сярод каго адбываецца гэты зрух і ў якім напрамку*.

Беларускі народ ужо даўна знаходзіцца ў „вялікім зруху". Народ не шукае дарог, не чакае пакуль кс. Гадлеўскі выпрацуе сваю уласную незалежніцкую лінію. Ад веку наш народ ня сьпіць, а ідзе па дарозе нацыянальнай і сацыяльнай барацьбы. У агні гэтай барацьбы кавалася адраджэнская думка народу і гартаваліся яго перадавыя сілы. У агні гэтай барацьбы і цяпер ідзе наш народ. Ён не шукае ар'ентацый, а ар'ентуецца выключна на свае сілы не адкідаючы натуральнай помачы другіх народаў, ў нас — перадусім польскага.

Новае ў гэтым „вялікім зруху" — гэта консолідацыя усіх прагрэсыўных сілаў беларускага народу з сіламі другіх народаў.

Але той, хто хоча нясьці адказнасьць перад сваім народам і гісторыяй (але кс. Гадлеўскі гэтага ня хоча), той не павінен ламаць здаровыя рады, а іх замацоўваць.

У абозе рэакцыі таксама заўважаецца „вялікі зрух". Перапалоханая ростам народнай кансалідацыі беларуская рэакцыя шукае сабе апякуноў сярод гітлероўскіх, панскіх і другіх імпэрыялістаў, пагадзіўшыся на плятформе ўгоды з рэакцыяй пад лёзунгамі кансалідацыі „беларускага фронту", „незалежнасьці і радыкалізма".

А з гэтым „вялікім", па свайму праступству, „рухам" сярод беларускай рэакцыі кс. Гадлеўскі і Ко перад „беларускім народам" і „гісторыяй" не заікаюцца.

Яму як відаць прыемна бачыць за адным сталом гандляроў душой беларускага народу разам з другімі „дзяльцамі", але супроць кансалідацыі свайго народу кс. Гадлеўскі гатоў крануць усе цёмныя сілы аду.

Калі гаварыць аб зруху сярод беларускай інтэлігэнцыі — трэба прызнаць, што тут пачалася пераацэнка старых пазыцыяў і шуканьне новых дарог і ар'янтацыяў. І гэта зусім нармальна. Падзеі апошніх часоў не маглі прайсьці бязсьледна.

У якой ступені ахапляў гэты працэс дэмакратычныя кругі БНА — сказаць трудна. Гэты працэс як і працэс зруху ў права—БНА да гэтага часу прыкрывала таямнічай заслонай.

Зрух у гэтых кругах у бок адраджэнскага руху і народу — кожны сумленны беларус мусіць толькі вітаць.

Кс. Гадлеўскаму гэта не падабаецца, як усякаму рэакцыянэру: яму падабаецца „застой", або „зрух" у бок фашызму. Яму падабаецца усё антысэміцкае, зьвярына—шовіністычнае цкаваньне беларускіх гітлероўцаў,—але затое яго пужае зрух ў бок кансалідацыі... сілаў сярод інтэлігэнцкіх і дэмакратычных радоў. Ён хоча устрымаць гэты рух, накіраваць яго па рэакцыйнай дарозе, падаць „анафеме" усякую прагрэсыўную думку і сваімі нацаўскімі мэтодамі гатоў пасласць на вогнішча інквізыцыі староньнікаў кансалідацыі народных сілаў.

Ці-ж гэта не напамінае паплечнікаў „сьвятых айцоў", пасылаючых на агонь інквізыцыі перадавых людзей навукі, поступу.

Значыць не супроць усякіх „зрухаў" выступае кс. Гадлеўскі. Ён узброіўся і агаласіў крыжавы паход „зрухам" ў бок „народнага фронту" і стараецца памагчы „зруху" у бок рэакцыі і арганізаваць яго у беларускі нацыянальны фронт.

Галоўным конікам, на якім ён выяжджае супроць народнага фронту гэта „незалежнасьць".

Для беларускага народу гэткая незалежнасьць зразумелая. Яна напамінае „незалежнасьць" слуцкага паўстаньня 1920 г., каторае так апявае „соцыялістычны" „Золак",—паўстаньня атрымаўшага вінтоўкі і кіраўніцтва ад зусім несоцыялістычных кругоў заграніцы.

Да такой „незалежнасьці" заклікае усіх беларусаў Беларускі Фронт".

Але трэба быць аб'ектыўным і прызнаць заслугі праціўніка. Заслугай кс. Гадлеўскага зьяўляецца тое, што ён публічна аб'явіў вайну сваім праціўнікам. Фронт—гэта вайна Гэтаму патрэба павучыцца шмат каму з нашых дэмакратаў.

Як бачым, беларуская рэакцыя актыўна кансалідуецца і дзеля гэтага больш актуальна стаіць пытаньне: „з кім аб'еднацца і супроць каго: з беларускім народам супроць здрады прадажніцтва і рэакцыі або з гэтымі апошнімі супроць народу"? На гэтае пытаньне ужо трэба даць адказ.

Людзі тыпу кс. Гадлеўскага, якія ломяць нацыянальныя рады пад „нацыянальнай кансалідацыяй", могуцьназваць нас разламоўцамі, але мы з чыстым сумленьнём з поўнаю адказнасьцю перад народам і гісторыяй заяўляем: *ідзём з беларускім народам супроць здрады, прадажніцтва і рэакцыі*.

Беларускай рэакцыі, якая кансалідуеццаў Нацыяналлістычным Фронце, проціставім усе здаровыя прогрэсыўныя дэмакратычныя сілы нашага народу, супроць рэакцыі, вайны і фашызма, за мір за свабоду, за самаакрэсьленьне народу.

*іч.*

# З беларускага жыцьця.

## У студэнтаў.

— 21.VI.36 г. Беларускі Студэнцкі Саюз у Вільні гасьціў у сябе трох прадстаўнікоў студэнтаў варшавскіх вышэйшых школаў, калег: Гіньку, Мікалая Орсу і Міхася Вітушку.

У часе гэтага спатканьня быў навязаны цясьнейшы ідэёвы і калежэнскі кантакт паміж Вільняй і Варшавай, гэтымі двумя найбольшымі ў Польшчы беларускімі студэнцкімі асяродкамі. Прышлося з здаваленьнем сьцьвердзіць, што ў аснаўным падходзе да нацыянальна - вызваленчай і культурнай працы на беларускіх гонях маладое пакаленьне беларускай інтэлігэнцыі мае згодныя думкі і пагляды. Адначасна быў узгоднены плян грамадзкай працы на найбліжэйшы час. Позднім вечарам віленскія студэнты правялі на станцыю сваіх варшаўскіх, калег, дзе адведзіны закончыліся шчырым сяброўскім разьвітаньнем.

— Сёлета вясной факультэт права і грамадзкіх навук на Віленскім Унівэрсытэце кончыў з тытулам магістра Язэп Бурак.

— На гуманістычным факультэце тытул доктара філязофіі ў галіне польскай літэратуры атрымаў Станіслаў Станкевіч. Доктарат атрыманы за працу „Беларускія элемэнты ў польскаў романтычнай паэзіі". Кніжка вышла друкам у польскй мове. (Вільня 1936 г. 320 стр.).

— Дыплём дыплёмованага мастака ў галіне малярства атрымаў абсольвэнт факультэту мастацтва Кузьма Чурыла.

# Сусьветны парлямант моладзі.

У канцы сакавіка г. г. адбылася ў Бруксэлі сусветная конферэнцыя моладзі па барацьбе за мір. 361 дэлегат і 40 гасьцей прадстаўлялі 248 арганізацый і 29 рознаякіх інтэрнацыяналаў моладзі з 23 краінаў. Ад імя 12 мільёнаў моладзі прамаўлялі дэлегаты ў Бруксэлі. Моладзь розных ідэолёгічных напрамкаў — ад каталіцкай да камуністычнай і сацыялістычнай зьехалася ў Бруксэлю з адным гарачым жаданьнем — унікнуць лёсу ваеннага пакаленьня І міма ідэолёгічных розьніц моладзь знайшла супольную мову. Аб'яднiла яе супольная воля барацьбы за мір. Там была кінута думка скліканьня **сусьветнага кангрэсу моладзі без увагі на пераконаньні.**

Амаль ва ўсіх краінах ідэя такога кангрэсу знайшла жывы водклік сярод маладога пакаленьня. Ідзе падрыхтоўка. У днях 31 жніўня — 7 верасьня моладзь сьвета, сабраная у Жэневе выявіць свае імкненьні

Жэнэўскі кангрэс мае на мэце супаставіць усе ідэолёгічныя планы і кірункі ў маладым пакаленьні для выпрацоўкі супольнай плятформы дамаганьняў, за якія-б ужо сягоньня магла-б змагацца моладзь супольнымі мэтадамі барацьбы, магла-б ісьці супольнай дарогай да ажыцьцяўленьня гэтых жаданьняў.

Маладыя паступоўцы і пацыфісты саткнуцца з маладымі фашыстамі, для каторых ідэалёгіяй зьяўляецца дух вайны і расавасьці. У свабоднай дыскусіі выскажа маладняк сваё слова: за што і супроць чаго.

Першае месца ў працах кангрэсу зойме справа міру.

Другой галіной пытаньняў, якімі займецца Кангрэс будзе справа гаспадарчага і грамадзкага быту моладзі, а таксама дарогі змаганьня за палепшаньне.

І трэйцяй галінай спраў, над каторай адбудзецца дыскусія, будуць рэлігійныя, маральна-абычаёвыя і філёзофічныя пытаньні, справы выхаваньня, навукі і школьніцтва, барацьбы з нацыянальнай, рэлігійнай і расовай ненавісьцю.

Міма разбежных праграмаў, знайсьці усё, што ёсьць супольнае для супольных высілкаў — вось задача кангрэсу. Трэба верыць — гэта задача будзе разьвязана, бо розношорстную ў поглядах моладзь лучаць аднолькавыя варункі быту, якія кладуць кляймо сягодняшняй горкай безнадзейнасьці вытвараючы з маладога пакаленьня як-бы асобую клясу.

## Моладзь усіх краін рыхтуецца.

**У ШВАЙЦАРЫІ** 13 арганізацый моладзі розных кірункаў прыняло ініцыятыву падрыхтоўкі Кангрэсу. Між іншым Ініцыятыўны Камітэт выдаў спеэцыяльную анкету.

**У ЧЭХАСЛАВАЧЧЫНЕ** паўстаў камітэт, рэпрэзэнтуючы 20 арганізацый ад крайніх левых да крайніх правых. Уся прэса займаецца справай кангрэсу. Камітэт заяўляе, што будзе вясьці распачатую справу паразуменьня таксама і пасьля женэўскага кангрэсу.

**У ЮГАСЛАВІІ** У Белградзе фэдарацыя студэнтаў сарганізавала масавую дэманстрацыю ў абарону міру. Падобныя маніфестацыі маюцца одбыцца у хуткім часе і ў іншых гарадох.

**У ФРАНЦЫІ** бярэ ўдзел у падрыхтоўцы Кангрэсу 30 арганізацый моладзі.

**У ГІШПАНІІ** Ініцыятыўны Камітэт выдаў маніфэст да ўсёй гішпанскай моладзі.

**У ГРЭЦЫІ** адбылася канфэрэнцыя 20 арганізацый студэнцкай моладзі. На 21-га чэрвеня пастаноўлена склікаць Кангрэс Міру. На пакрыцьцё коштаў сорганізовалі зборы.

**У КАНАДЗЕ** скліканы на 23, 24 і 25 траўня ў Оттаву кангрэс моладзі, у працах якога ўзялі ўдзел арганізацыі розных палітычных і ідэолёгічных кірункаў. На кангрэс выбрана некалька сот дэлегатаў.

---

Маладое пакаленьне Польшчы і беларуская моладзь адстае ў падрыхтоўцы да жэнэўскага парлямэнту. Найхутчэй што нам, беларусам, не ўдасцца склікаць спэцыяльнай канфэрэнцыі дык мы прапануем правясьці выбор 2 дэлегатаў праз прэсу. Да выходу наступнага нумару павінны быць пададзены кандыдаты.

## Цэнтральны Гурток Т. Б. Ш.

У нядзелю 14 чэрвеня адбыўся агульны гадавы сход Цэнтр. Гуртка Т. Б. Ш. у Вільні. Сход выбраў новае кіраўніцтва гуртка ў асобах: Вінцэсь Склубоўскі—старшыня; Астап Русецкі — скарбнік; Франук Грышкевіч сэкрэтар; Кандыдатамі ў кіраўніцтва выбраны: Вітаўт Тумаш і Міхась Якімец. У рэвізыйную камісыю ўвайшлі: Сяргей Паўловіч, Мітрафан Кэпэль і Анеля Каткавічанка. Кандыдатамі ў рэвізыйную камісыю выбраны: Фэлікс Стэцкевіч і Мікола Шчорс.

## Усім сябрам Цэнтральнага Гуртка Т. Б. Ш.

Кіраўніцтва цэнтр. гуртка Т. Б. Ш. у Вільні на паседжаньні дня 18 чэрвеня г. г. пастанавіла: правесьці перарэгістрацыю сяброў цэнтральнага гуртка. Час перарэгістрацыі будзе трываць ад 1-га ліпня да 1-га лістапада 1936 г. Усе сябры і сымпатыкі, жадаючыя стацца сябрамі Цэнтр. Гуртка Т. Б. Ш. павінны зляжыць перарэгістрацыйную заяву да дня 1-га лістапада г. г. Па блянкеты заяваў трэба зьвяртацца ў Беларускі Школьны Сэкратарыят Вільня, Каралеўская 3—8.

## Канфіскаты.

— „Наша Воля" № 8 (9) канфіскавана за артыкулы: „За родную школу і культуру", „Голас мае вёска" і за карэспандэнцыю з в. Новая-Весь.

— Аднаднёўка „За родную школу" канфіскавана за цэлы рад артыкулаў.

# З усяго сьвету.

— 18 чэрвеня памёр у Маскве знаны расейскі пісьменнік Максім Горкі. У суботу 20 чэрвеня на Чырвоным Пляцу адбыліся урачыстыя паховіны. Урну з прахам Горкага нясьлі сябры ураду і партыі. Прамаўлялі: Молатаў, Дымітрыеў, Аляксей Талстой (пісьменьнік), Андрэй Жыд (француcкі пісьменнік). Падчас замуровываньня урны у Крамлеўскай сьцяне, аддадзены ганаровыя выстралы.

На урну зложаны вянкі ад францускага ураду, ад прэзыдэнта Масарыка. Пахароны адбыліся за кошт ураду.

— Суд працы ў Дрэздэне (Нямеччына) постанавіў, што адмова гітлероўскага прывітаньня на фабрыцы можа служыць повадам да бязадкладнага звальненьня з працы.

— У Амэрыцы скасавана забарона вывазу аружжа у Італію і Абісынію. Прэзыдэнт Рузвэльт сказаў, што прычыны якія выклікалі гэтую забарону зараз не існуюць.

— Японскі Урад разглядаў вялікі эміграцыйны плян, які прадбачыць высылку у Манджурыю у працягу 20 гадоў 5 мільёнаў японскіх сямействаў, што становіць 10% усяго насельніцтва Манджурыі.

— Францускі урад прыняў праект заказу аб нацыяналізацыі вайсковай прамысловасьці.

— У Букарэшце і Бэсарабіі (Румынія) ідуць сутычкі паміж прыхільнікамі правых газэт і газэт левых, якія бароняць палітыку рабочых інтэрнацыяналаў.

— Сацыялістычны ўрад Швэцыі падаўся ў адстаўку. Новы урад утварыў павадыр аграрнай партыі.

— Новы бэльгійскі урад ван-Зэлянда выступіў у парлямэнце з праграмовай прамовай, прысьвечанай справам унутранай палітыцы. Прам'ер заявіў, што урад мае замер правясьці рад рэформаў у галіне соцыяльнай і эканамічнай.

— Бэльгійскі парлямэнт прыняў закон аб 40 гадзінным тыдню працы.

— 8 італьянскім карэспандэнтам, якія выступілі супроць нэгуса на паседжаньні Лігі Народаў, ўлады Жэнэўскага кантону, запрапанавалі выехаць з Жэневы.

